*Сёння ў пасёлку Шчомысліца Мінскага раёна адкрываецца выстава «Белагра-2019». Сваю прадукцыю і новыя навукова-тэхналагічныя распрацоўкі прадэманструюць каля 600 кампаній з 29 краін свету.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***


# Народная Воля

**№ 43 (4398)**

4 чэрвеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Кучма вяртаецца...

Палітык зноў будзе прадстаўніком Украіны на перамовах трохбаковай кантактнай групы ў Мінску. Пра гэта прэзідэнт Украіны Уладзімір Зяленскі заявіў на брыфінгу 3 чэрвеня. Найбліжэйшая сустрэча кантактнай групы прызначана на 5 чэрвеня.

**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для «Народнай Волі»

## За чаем у Сочы ўжо не дамовішся

У нядзелю ў Мінск прыбыў новы расійскі амбасадар Дзмітрый Мезенцаў. Ён ужо даў зразумець, што будзе працаваць у болей лагодным стылі, чым яго папярэднік Міхаіл Бабіч.

Але, мяркую, гэта толькі гульня ў кепскага і добрага следчых. Лінія Масквы застаецца ранейшай. Яна працягвае дзейнічаць у духу снежаньскага ўльтыматуму Мядзведзева. Тады расійскі прэм'ер паставіў пытанне рубам: або "прасунутая інтэграцыя", або, калі Мінск абірае "кансерватыўны варыянт", рэзка скарачаем эканамічную дапамогу.

Сёння ўжо відавочна: Аляксандр Лукашэнка абраў менавіта кансерватыўны варыянт. Бо ў іншым выпадку пад маркай дабудовы Саюзнай дзяржавы будзе проста зруйнаваны беларускі суверэнітэт. Дастаткова згадзіцца на адзіную валюту – і паглынанне нашай эканомікі стане толькі справай тэхнікі.

Магчыма, гэта адзін з пунктаў, па якіх пазіцыі бакоў прынцыпова разыходзяцца. Напружанне расце. Прайшло амаль што паўгода, як была створана супольная працоўная група ў пытаннях інтэграцыі, але беларуская і расійская часткі гэтай групы так і не здолелі пакуль што сесці за агульны стол.

І не дзіва. Спецыфіка двухбаковых адносін, вытворная ад прыроды аўтарытарных рэжымаў, такая, што напачатку сысціся на прынцыповых рэчах мусяць два кіраўнікі. А між імі дыялог, паводле неафіцыйных звестак, зусім не клеіцца.

І тут усё зразумела. У маскоўскім сцэнарыі дабудовы Саюзнай дзяржавы кіраўніку Беларусі апрыёры адводзіцца другая роля, што яго, самі разумееце, ніяк не задавальняе. Звыш таго, ён ні на каліва не паверыць маскоўскім гарантыям бяспекі.

Таму перспектыва не бліскучая: Крэмль будзе ціснуць, Лукашэнка – супраціўляцца, тапіць "прасунутую інтэграцыю" ў перамоўным балоце.

Тое, што беларускае кіраўніцтва ўперлася рогам, – факт станоўчы. Але сказаўшы "а", варта сказаць і "б". А таксама "в", "г", "д" і далей па алфавіце. Бо шмат на якіх кірунках умацавання суверэнітэту конь не валяўся.

Мала шчоўкаць бізуном ды патрабаваць, каб урад забяспечыў дыверсіфікацыю знешняга гандлю. Колькі ні нагружай МЗС задачай прасоўваць на ўсе рынкі айчынны тавар, ён там не пойдзе са свістам, калі не будзе канкурэнтаздольны.

А канкурэнтаздольнасць не падвысіш казённай мадэрнізацыяй. Вунь паспрабавалі так узняць цэментную галіну: патрацілі прорву грошай, а кан'юнктура тым часам змянілася, і падобна на тое, што той цэмент, прычым не самы танны па сабекошце, нікому ў такіх аб'ёмах не патрэбны.

Між тым дзяржава працягвае ўбухваць грошы (нядаўна падпісаны ўказ №181), цяпер ужо – каб падтрымаць на плыву тыя закрэдытаваныя па вушы цэментныя заводы. Няўжо мы такія багатыя, каб пускаць на вецер мільярды?

Карацей, у эканоміцы мусяць весці рэй не чыноўнікі, а гаспадары. І годзе ўжо баяцца той прыватызацыі. Горай, чым пры шчоўканні адміністрацыйнай пугай, дакладна не будзе.

Патрэбны дадатковыя крокі насустрач Еўропе. Важным сімвалічным жэстам мог бы стаць мараторый на смяротнае пакаранне. Для еўрапейцаў гэта тэма трапяткая, і беларускае кіраўніцтва мае шанец паказаць тут прагрэсізм без рызыкі, што сістэма пахіснецца.

Але самае важнае – перастаць бачыць ворагаў у нацыянальна свядомай частцы грамадзянскай супольнасці, незалежных медыях. Мяч на баку ўлады. Трэба адкідаць страхі, забабоны ды пачынаць грамадскі дыялог. Прычым не імітацыйны, як гэта спрабуюць зладзіць на некаторых пляцоўках цяпер, а сапраўдны.

Сёння наверсе загаманілі пра новую Канстытуцыю. Аднак канкрэтыкі няма. Крытыкі ўлад падазраюць, што рыхтуецца нешта падступнае: ці то сямігадовы тэрмін для прэзідэнта з абнуленнем адліку (тады выбары можна аднесці недзе аж на 2026 год), ці то нават ціхая здача незалежнасці.

Каб не пладзіліся чуткі, варта было б як мага хутчэй абнародаваць канцэпцыю канстытуцыйных змен і падключыць да абмеркавання шырокую грамадскасць.

А як па мне, дык і цяперашняя Канстытуцыя не замінае змяніць, дэмакратызаваць унутраную палітыку. У дзейным Асноўным законе ўсё прыгожа напісана аб правах ды свабодах. Застаецца толькі даць іх у рэале. Разумею, што цудаў не будзе, у кіроўнай вярхушкі вялікія фобіі. Аднак трэба пачынаць.

Так, свядомы, палітычна актыўны народ напружвае любую ўладу. Але менавіта крытычная маса свядомых грамадзян ёсць найлепшая гарантыя суверэнітэту. Пытанне ў тым, што на першым плане ў высокага начальства – асабісты інтарэс ці нацыянальны. Зрэшты, калі сюды прыйдзе Масква, то і з тутэйшымі вялікімі шышкамі яна цырымоніцца не стане.

А зараз выкручванне рук працягнецца, як бы галантна ні паводзіў сябе новы расійскі амбасадар. І самай вялікай памылкай для беларускага кіраўніцтва будзе спадзеў, што зноў пашэнціць разрульваць сітуацыю адзін на адзін з Пуціным дзе-небудзь у Сочы за чаем.

**ЧУЛІ?**

### Славакія зацікаўлена ў беларускіх медыках

Беларусь наведвае кіраўнік Нацыянальнай рады Славацкай Рэспублікі **Андрэй Данко** – другая асоба ў краіне пасля прэзідэнта.

Учора ён сустрэўся са сваім беларускім калегам – старшынёй Палаты прадстаўнікоў **Уладзімірам Андрэйчанкам**. На сёння запланавана сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам.

Эканамічныя стасункі са Славакіяй у Беларусі, можна сказаць, сціплыя: летась агульны тавараабарот паміж краінамі склаў 218 мільёнаў долараў. Зразумела, што бакі зацікаўлены яго нарошчваць. Таксама кіраўнік славацкага парламента заўважыў, што хацеў бы бачыць значна больш беларусаў у сваёй краіне.

*«Апошнім часам шмат украінцаў працуюць у Польшчы. А мы хацелі б, каб больш беларусаў працавалі ў Славакіі. Найперш зацікаўлены ў вашых урачах, чыя высокая кваліфікацыя нам добра вядома. Ахова здароўя і адукацыя – дзве прыярытэтныя галіны, дзе супрацоўніцтва хутка магло б даць плён»*, – адзначыў Андрэй Данко.

**ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ**

### Афарміць падпіску на «Народную Волю» можна і праз інтэрнэт

Так, шаноўныя прыхільнікі "Народнай Волі", цяпер у вас ёсць магчымасць афарміць падпіску непасрэдна дома. Заходзіце ан сайт Belpressa.by і праводзіце аплату праз сістэму "Расчет" (АРІП).

Пры гэтым заўважым: тэрмін афармлення падпіскі праз інтэрнэт на ліпень–снежань 2019 года – да 20 чэрвеня.

Вядома ж, застаецца і традыцыйная форма падпіскі. Толькі майце на ўвазе: каб не застацца без любімай газеты з 1 ліпеня, вам неабходна зазірнуць у любое паштовае аддзяленне да 26 чэрвеня. Спецыялізаваныя пункты "Белсаюздруку" будуць прымаць плату за падпіску на ліпень да 23 чэрвеня.

Нагадваем: у бліжэйшыя месяцы Беларусь чакаюць вялікія падзеі. На старонках "Народнай Волі" яны знойдуць аператыўнае і аб'ектыўнае адлюстраванне. Таму застанёмся разам і ў другім паўгоддзі!

***Калі хочаш лепшай долі –***
***Дапамажы "Народнай Волі".***
***У свеце ПРАЎДЫ жыць імкніся,***
***На газету падпішыся!***

***РЭДАКЦЫЯ.***

**АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА**

## Ці будуць мужчыны сыходзіць на пенсію ў 60 гадоў?

*Вясной гэтага года актывісты Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) накіравалі ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны свае прапановы наконт зніжэння пенсіённага ўзросту для мужчын. "Народная Воля" пацікавілася, як адрэагавалі чыноўнікі на ініцыятыву.*

Сацыял-дэмакраты лічаць, што разбежка паміж сярэдняй працягласцю жыцця мужчын і жанчын у Беларусі празмерна высокая і складае ў сярэднім каля 12 гадоў. Мужчыны жывуць на пенсіі значна менш за жанчын. Гэта, можна сказаць, з'яўляецца дыскрымінацыяй мужчынскай часткі насельніцтва.

*"У развітых краінах лічыцца нармальным, калі сярэдняя разбежка ў працягласці жыцця мужчын і жанчын складае 4,5 года,* – гаворыць старшыня БСДП **Ігар Барысаў**. – *Калі разбежка большая, то гэта ўжо праблема, і варта прымаць дадатковыя праграмы па павелічэнні працягласці жыцця мужчын. У нас гэта не робіцца. Акрамя таго, пенсіённы ўзрост мужчынам быў падвышаны з 60 да 63 гадоў. Гэта ўсё выглядае так, нібы дзяржава не хоча плаціць пенсіі і скідвае з сябе цэлую мэтавую групу, якая складае больш за 46 працэнтаў грамадзян краіны.*

*Сацыял-дэмакраты акцэнтуюць увагу на тым, што традыцыйна ў развітых еўрапейскіх краінах жанчыны і мужчыны сыходзяць на пенсію ў адным узросце. Улічваючы беларускія асаблівасці, выхад на пенсію, паводле меркавання актывістаў БСДП, у Беларусі мусіць адбывацца для жанчын ў 58, а для мужчын у 60 гадоў".*

Але ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны на гэты конт свая пазіцыя.

*"Усталёўваючы ўмовы пенсіённага забеспячэння, у прыватнасці межы пенсіённага ўзросту, любая дзяржава сыходзіць са сродкаў, наяўных на выплату пенсій,* – адказала на партыйны зварот начальнік галоўнага ўпраўлення пенсіённага забеспячэння **Наталля Мурашкевіч**. – *Правы дзяржавы на самастойнае вырашэнне гэтых пытанняў прызнаецца і міжнароднымі арганізацыямі.*

*У Рэспубліцы Беларусь пры прыняцці рашэння аб павышэнні пенсіённага ўзросту ўлічаны не толькі статыстычныя і прагназуемыя паказчыкі аб сярэдняй чаканай працягласці жыцця, але і сацыяльна-дэмаграфічная сітуацыя (суадносіны колькасці пенсіянераў і колькасці работнікаў – плацельшчыкаў узносаў, з паступленняў якіх фінансуецца выплата пенсій), а таксама фінансавыя магчымасці бюджэту Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.*

*З улікам сукупнасці гэтых фактараў, падстаў для рэалізацыі прапановы аб вяртанні для мужчын 60-гадовага агульнаўстаноўленага пенсіённага ўзросту не маецца.*

*У цэлым адзначым, што ў Рэспубліцы Беларусь дыскрымінацыі грамадзян у пенсіённай сферы ў залежнасці ад полу не ўгледжваецца. Мужчыны і жанчыны карыстаюцца роўнымі правамі на прызначэнне працоўнай пенсіі па ўзросце пры выкананні ўмоў, устаноўленых заканадаўствам (артыкулы 21, 22 і 47 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь). Дасягненне агульнаўстаноўленага пенсіённага ўзросту, прадугледжанага Законам Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» (артыкул 11), з'яўляецца адной з такіх умоў".*

**– Ігар, як вам аргументацыя чыноўніцы пра тое, што, усталёўваючы межы пенсіённага ўзросту, дзяржава сыходзіць са сродкаў, наяўных на выплату пенсій?**

– Гэта якраз сведчыць пра тое, што маецца дзірка ў бюджэце. І мужчыны – самая лепшая катэгорыя, якой можна не плаціць пенсію. Тым больш што некаторыя наўпрост могуць не дацягнуць да пенсіённага ўзросту. А тыя, хто дажывае, пасля пенсіі жывуць менш за жанчын, і, адпаведна, на гэтым дзяржава вельмі добра эканоміць.

**– Што будзеце рабіць далей са сваёй ініцыятывай па зніжэнні пенсіённага ўзросту для мужчын? Можа, плануеце звярнуцца, напрыклад, да прэм'ер-міністра?**

– Мы яшчэ падумаем. Бо гэтая тэма вельмі актуальная і тычыцца амаль кожнага.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**ЕСТЬ ВОПРОС!**

## Как будет дорожать топливо в 2020 году

Дорожный сбор в Беларуси, возможно, будут включать в стоимость топлива. Однако на сегодняшний день отнюдь не все госорганы поддерживают такой вариант развития событий. Какое же решение будет принято на выходе?




### В поисках справедливости

Вот уже несколько лет автовладельцы в Беларуси платят госпошлину за выдачу разрешения на допуск транспортного средства к участию в дорожном движении (так называемый дорожный сбор). При этом нынешняя система уплаты сбора не учитывает время, которое люди проводят в дороге. Одни выезжают пару раз в неделю, другие наматывают сотни километров в день.

Некоторым автовладельцам система показалась не совсем справедливой. Поэтому еще в 2018 году власти подготовили проект президентского указа «О платежах за участие в дорожном движении». Документ в начале 2019-го был вынесен на общественное обсуждение и предполагал, что дорожный сбор автовладельцы будут уплачивать не во время техосмотра, как сейчас, а отдельно.

Предусматривалось, что физлица получат возможность уплачивать дорожный сбор помесячно, а при единовременном внесении денежных средств за 12 и более месяцев проект указа даже предполагал скидку.

Новая система уплаты дорожного сбора, которую планировалось ввести, позволяла гражданам, которые длительное время не пользуются автомобилем (например, зимой), не платить дорожный сбор. Однако и эта система была признана недостаточно справедливой. В Администрации президента посчитали, что нужна еще более справедливая система уплаты дорожного сбора.

Поэтому Минфин сейчас рассматривает вопрос о включении дорожного сбора в стоимость топлива. Замминистра финансов **Дмитрий Кийко** сообщил в минувшую пятницу журналистам, что этот вопрос будет в ближайшее время обсуждаться на государственном уровне.

### Дискуссионная тема

Стоит отметить, что еще недавно Минфин выступал против этого варианта. Согласно недавним оценкам министерства, топливо в Беларуси в ближайшие годы и так будет дорожать под воздействием пресловутого российского налогового маневра, который ведет к росту входящей цены для белорусских НПЗ.

Предполагается, что даже при неизменном курсе белорусского рубля в условиях реализуемого Россией налогового маневра ежегодное повышение цен на бензин и дизтопливо ожидается в объеме 13–15 копеек.

В результате стоимость одного литра топлива к 2024 году может вырасти до одного евро, предположил в статье, опубликованной в апрельском номере журнала *«Финансы, учет, аудит»*, издаваемого Минфином, заместитель начальника отдела косвенного налогообложения, имущественных налогов и иных платежей Главного управления налоговой политики и доходов бюджета **Максим Конюшко.**

По его мнению, дополнительное удорожание за счет включения дорожного сбора в стоимость топлива «*в создавшихся условиях только повысит социальную напряженность в обществе и негативно скажется на финансово-экономических показателях субъектов хозяйствования*».

По информации *БелаПАН*, против решения о включении дорожного сбора в стоимость топлива выступает концерн «Белнефтехим», который из-за убыточности поставок нефтепродуктов на внутренний рынок вынужден постоянно повышать цену топлива на одну копейку.

По сведениям *БелаПАН*, Национальный банк, который отвечает за инфляцию, также весьма настороженно относится к поднятой теме. К слову, в 2019 году рост цен на топливо является одним из основных инфляционных факторов, которые перечисляет Нацбанк в своих обзорах о ситуации на потребительском рынке.

*«Если решение о включении дорожного сбора в стоимость топлива будет принято без всяких компенсационных мер, которые могли бы сдерживать инфляцию, Нацбанк, наверное, такой вариант не поддержит»*, – считает собеседник *БелаПАН* в финансовых кругах.

По мнению эксперта, Нацбанк может поддержать решение о включении дорожного сбора в стоимость топлива только в том случае, если будут приняты дополнительные меры по сдерживанию инфляционных процессов.

### Как будет дорожать топливо

Между тем белорусские экономисты и журналисты уже пытаются математическим образом оценить, каким может быть эффект от включения дорожного сбора в стоимость топлива. Оттолкнемся от официальных данных, которые доступны.

В 2018 году, как следует из доклада Минфина о госфинансах, за счет взимания дорожного сбора в бюджет поступило 272,6 млн рублей. В 2019 году, согласно закону о бюджете, казна рассчитывает получить от уплаты дорожного сбора 290 млн рублей.

С учетом ожидаемой инфляции в 2020 году (5%) поступления бюджета от дорожного сбора могут быть проиндексированы примерно на эту же величину. Соответственно, можно предположить, что поступления в бюджет от дорожного сбора на 2020 год могут быть запланированы в пределах 305 млн рублей.

На какую величину нужно поднять цену топлива, чтобы казна смогла собрать эти деньги в 2020 году?

Согласно официальным данным, в 2018 году в Беларуси было произведено 3,5 млн тонн автобензина, в том числе на экспорт заводы отправили 2,16 млн тонн, импорт автобензинов был совсем небольшой (19,6 тыс. тонн). Соответственно, поставки на внутренний рынок в прошлом году составили 1,36 млн тонн бензина.

Также в 2018 году в Беларуси было произведено 6,6 млн тонн дизельного топлива, из которых 3,13 млн тонн было поставлено на экспорт, импорт был также небольшим (0,21 млн тонн). Соответственно, на внутренний рынок было поставлено 3,68 млн тонн дизельного топлива.

Всего, как видим, в 2018 году на внутренний рынок поступило (путем розничных и оптовых продаж) немногим более 5 млн тонн автомобильного топлива (с учетом дизтоплива и автобензина). В тонне нефтепродуктов (плотность зависит от марки топлива и температуры продукции) более 1,2 тыс. литров. Таким образом, порядка 6 млрд литров автомобильного топлива было реализовано в 2018 году.

Соответственно, чтобы собрать с реализации такого объема топлива 305 млн рублей дорожного сбора, в 2020 году нужно будет поднять цену на 5 копеек за литр.

К такому выводу пришли экономисты Исследовательского центра ИПМ.

(Naviny.by.)

Народная Воля http://www.nv-online.info
4 ЧЭРВЕНЯ 2019 г.

АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

# Ці будуць мужчыны сыходзіць на пенсію ў 60 гадоў?

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Нават калі паглядзець на нашых суседзяў, то з цягам часу ў некаторых еўрапейскіх краінах таксама зніжаюць пенсіённы ўзрост. Гэта якраз сведчыць пра тое, што, калі дзяржавы дасягаюць агульнага дабрабыту, адбываецца назапашванне капіталу, і яны могуць сабе дазволіць такія рэчы – каб грамадзяне былі больш забяспечаныя і ў той жа час больш шчаслівыя, мелі магчымасць больш часу праводзіць з сям'ёй.

У Беларусі праблема не толькі ў пенсіённым узросце. У нас не працуе эканоміка. Дзяржаўнае кіраванне эканамічнымі працэсамі наносіць велізарную шкоду, слаба развіваецца сектар паслуг, прыватнае прадпрымальніцтва. Самыя прагрэсіўныя людзі не затрымліваюцца ў краіне, а збіраюць валізкі і ўцякаюць за межы Беларусі. Нават калі паглядзець афіцыйную статыстыку – колькасць людзей, якія выязджаюць за межы Беларусі, з кожным годам расце. І наўрад ці гэтая тэндэнцыя зменіцца. Бо свет развіваецца хутчэй, чым наша краіна. І нават шэраг афрыканскіх краін, не кажучы ўжо пра азіяцкія, жывуць значна лепш за Беларусь. У нас пры гэтай уладзе няма спадзеву на нармальнае эканамічнае развіццё.

**– Як думаеце, чаму ў нас не надта прыжыліся альтэрнатыўныя метады назапашвання пенсіі, калі можна самому пэўны працэнт ад заробку адлічваць у спецыяльныя фонды, а па дасягненні пенсіённага ўзросту атрымаць дадатковую пенсію?**

– Некаторыя фонды працуюць, напрыклад тая ж "Стравіта". На мой погляд, гэта добрая сістэма. Ведаю, што некаторым дзяржаўным службоўцам рэкамендуюць адлічваць пэўны працэнт на страхавую пенсію. Але беларусы будуць добраахвотна ашчаджаць на падобныя рэчы толькі тады, калі будуць мець больш-менш адэкватныя заробкі. Зараз жа ў многіх заробку хапае выключна на пражыццё і самыя неабходныя рэчы. Усё ўпіраецца ў той факт, што ў людзей проста няма магчымасці ашчаджаць і адкладаць нешта на будучыню.

Але калі запусціць эканоміку, падвысяцца заробкі, і такія альтэрнатыўныя сістэмы зробяцца больш папулярнымі.

Калі мы прапаноўвалі сваё бачанне таго, як павінна фарміравацца пенсіённая сістэма, то сыходзілі з такіх прапорцый: адна трэць пенсіі павінна фарміравацца за кошт працадаўцы, які будзе рабіць адпаведныя адлічэнні, другая частка – быць гарантавана дзяржавай, і яшчэ адна трэць – гэта асабістыя адлічэнні. Пры такой схеме кожны зможа разлічваць на нармальную пенсію.

На мой погляд, нам увогуле трэба кардынальна змяніць сістэму. Напрыклад, у тым жа Сінгапуры вельмі просты прынцып назапашвання пенсіі: ты проста працэнт ад заробку пераводзіш на свой банкаўскі рахунак, і такім чынам можаш самастойна кантраляваць сваю будучую пенсію. Там няма ніякіх дзяржаўных фондаў па сацыяльнай абароне. У нас жа ў гэтым сэнсе вельмі раздзьмуты бюракратычны апарат, які, між іншым, існуе за кошт падаткаплацельшчыкаў. І калі чалавек заўчасна сыходзіць з жыцця, натуральна, яму ўжо ніхто не кампенсуе пенсію – ягоныя сваякі ці дзеці не атрымліваюць ніякіх выплат. Хаця чалавек дзясяткі гадоў спраўна здзяйсняў адлічэнні ў фонд сацыяльнай абароны. Атрымліваецца, што на гэтым выйграе толькі дзяржава. Праблема ёсць, яна тычыцца многіх людзей, і яе трэба вырашаць!

**Марына КОКТЫШ.**

ПОГЛЯД

## Леанід Заіка лічыць немэтазгодным везці бульбу ў Таджыкістан

*Беларусь чакае з афіцыйным візітам прэзідэнта Таджыкістана Эмамалі Рахмона. Яго прыезд запланаваны пад закрыццё Еўрапейскіх гульняў у Мінску. З гэтай нагоды "Народная Воля" звярнулася да вядомага беларускага эканаміста **Леаніда Заікі** з пытаннем: якая карысць у эканамічным супрацоўніцтве Беларусі і Таджыкістана?*

– Мне падаецца, што ў супрацоўніцтве паміж нашымі краінамі больш важны палітычны і сацыяльны бок, чым эканамічны. Беларусь можа прапанаваць, што ў прынцыпе ўжо і робіцца, навучанне таджыкскіх студэнтаў у нашых ВНУ. Беларусь можа прапанаваць Таджыкістану падрыхтоўку спецыялістаў рабочых прафесій. Гэта куды важней, чым эканамічны складнік. Бо калі арыентавацца на тое, што Таджыкістан будзе прадаваць нам курагу, а мы туды павязем бульбу, то нейкага выгаднага эканамічнага "выхлапу" з гэтага не атрымаецца.

З улікам таго, што Таджыкістан – гэта цікавая горная краіна, могуць быць распрацаваны нейкія турыстычныя маршруты. Тут ёсць поле дзейнасці, тут можа быць прарыў.

А ў астатнім… Асаблівага сэнсу ў гандлі з Таджыкістанам асабіста я не бачу. Беларускія трактары і прычэпы ў Таджыкістане не надта патрэбны. Побач з таджыкамі – Кітай. І спажывецкі рынак Таджыкістана – гэта зона пранікнення Кітая. Мы там не канкурэнты, бо мы і самі купляем у Кітаі ўсё – ад ноўтбукаў да мухабоек…

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ДАРЭЧЫ

Паводле інфармацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі, за студзень–лістапад мінулага года нашы краіны нагандлявалі паміж сабой на суму, эквівалентную 34,8 мільёна долараў, а беларускі экспарт у Таджыкістан за гэты ж перыяд склаў 31,4 мільёна долараў.

БЕЛАЭС: ЧТО ТАМ?

## Начинаются гидроиспытания

*«Росатом» – генпроектировщик и генподрядчик Белорусской АЭС -- вчера сообщил о начале процесса подготовки систем и оборудования к проведению гидравлических испытаний первого и второго контуров на прочность и плотность.*

«Началу выполнения работ по программе заполнения первого контура РУ химически обессоленной водой предшествовал значительный объем работ по монтажу технологических систем и оборудования, в том числе и сборка реактора. Результаты нашей работы со всем комплектом исполнительной документации предоставлены заказчику и Госатомнадзору Республики Беларусь, – пояснил вице-президент-директор проекта по сооружению Белорусской АЭС АО ИК «АСЭ» **Виталий Полянин**. – В ближайшие дни планируется опробование главных циркуляционных насосов, заполнение химически обессоленной водой парогенераторов со стороны второго контура и выход на этап гидравлических испытаний первого и второго контуров. Испытания планируется начать в первой декаде июня».

Напомним, пуск БелАЭС запланирован на осень нынешнего года.

РАКУРС

## Беларусам на новую вопратку не хапае грошай?

*Старшыня канцэрна «Беллегпрам» Таццяна Лугіна ў інтэрв'ю тэлеканалу «СТБ» заявіла, што неабходна прыняць меры да таго, каб дынаміка росту сэканд-хэнду на беларускім рынку не працягвалася, а ў насельніцтва "прырастала любоў да беларускага адзення". «Народная Воля» вырашыла ўдакладніць, колькі патрыманай вопраткі рэалізуецца ў нашай краіне .*

Паводле звестак Белстата, за апошнія 10 гадоў імпарт сэканд-хэнду ў Беларусь вырас больш чым у тры разы! Напрыклад, у 2018 годзе гэтай прадукцыі было завезена ў краіну 47,4 тысячы тон амаль на 74,3 млн долараў. А ўсяго за 10 гадоў увезена такога адзення аж на 269,2 млн долараў.

Вязуць няновую вопратку ў асноўным з Еўропы – пастаўкі з краін ЕС складаюць 97,5%. Так, у мінулым годзе амаль 5,7 тысячы тон сэканд-хэнду ўвезена з Германіі, 2,16 тысячы тон – з Нідэрландаў і нават з Літвы – 2,4 тысячы тон.

Зразумела, што калі тавар завозяць, значыць, на яго ёсць попыт. Мабыць, у беларусаў не хапае грошай на новую вопратку. У красавіку гэтага года відэаролік пра тое, як мінчане штурмуюць новы магазін сэканд-хэнду ў Каменнай Горцы, абляцеў увесь інтэрнэт. У лютым такі ж пакупніцкі ажыятаж назіраўся ў Магілёве ў магазіне патрыманага адзення каля вакзала, дзе была аб'яўлена акцыя зніжак. «*У пакупнікоў на касе было па 30–50 адзінак тавару ў кожнага*», – стаяў подпіс пад фота з магазіна.

**Іван ШЫРОКІ.**

ПЕЧАЛЬНАЯ ВЕСТЬ



## На стенах Рейхстага он оставил надпись «Барановичи–Собибор–Берлин»

*В Израиле на 97-м году жизни скончался **Семен Розенфельд**, последний из остававшихся в живых участников восстания в Собиборе.*

Семен Розенфельд родился 10 октября 1922 года, в местечке Терновка Винницкой области. Окончив школу, в октябре 1940-го был призван в армию, где проходил службу в 150-м тяжелом артиллерийском полку.

В начале войны, в июле 1941 года, Розенфельд попал в окружение, получил ранение и был взят в плен. В составе группы из 230 военнослужащих-евреев содержался в арбайтслагере (рабочем лагере) СС в Минске. По воспоминаниям Семена Розенфельда, военнопленных не расстреливали, однако доводили до изнеможения скудным пайком и тяжелой работой. К весне 1942 года в живых из всей группы осталось 10–15 человек.

В сентябре 1943 года вместе с рядом других советских военнопленных, в том числе и с последующим руководителем восстания Александром Печерским, был эшелонирован в лагерь смерти Собибор.

После побега из Собибора Розенфельду с еще несколькими заключенными удалось скрываться в лесах до 1944 года, до момента освобождения Польши советскими войсками. 22 июля 1944 года он заявил о своем желании вернуться в армию. В течение трех недель бывший узник подвергался допросу, после был приписан к 39-й гвардейской мотострелковой дивизии, с которой и продолжил воевать, встретив Победу в Берлине. На момент демобилизации в ноябре 1945-го Розенфельду было 23 года.

Бывший участник восстания сумел пережить трагедию, у него родилось двое сыновей, есть внуки и правнуки. В 1990 году Семен Розенфельд репатриировался в Израиль.



ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Каб не трагедыя…

## *Гісторыя жыцця забітага ў Амерыцы беларуса*

31 мая ў амерыканскім горадзе Вірджынія-Біч падчас страляніны, учыненай муніцыпальным службоўцам, загінуў беларус, выхадзец з Магілёва 35-гадовы **Аляксандр Гусеў**. Разам з ім былі застрэлены яшчэ 11 чалавек, і чацвёра з раненнямі дастаўлены ў шпіталь.

Аляксандр эмігрыраваў у ЗША на вучобу ў 2003 годзе. Атрымаў адукацыю інжынера і апошнія дзевяць гадоў працаваў у муніцыпальных службах Вірджынія-Біч.

### У 16 гадоў упэўніўся, што ЗША – краіна ягонай мары

У Магілёве адшукалася стрыечная сястра Аляксандра – Вольга. Яна жыве ў кватэры, якая дасталася яе сям'і пасля ад'езду ў Амерыку Аляксандра, ягонага брата Аляксея ды іх маці. Маці паехала да сыноў год таму. Бацька застаўся ў Беларусі.

Кватэра Гусевых у звычайным панэльным пяціпавярховіку аднаго са спальных раёнаў магілёўскага Задняпроўя. Паводле слоў Вольгі, сям'я Аляксандра не вылучалася заможнасцю, і, калі ён паехаў у Амерыку, разлічваць на дапамогу родных не мог.

Перад тым як эмігрыраваць, ён у 16 гадоў па адукацыйнай праграме абмену пабываў у ЗША і ўпэўніўся, што гэта краіна ягонай мары. У тыя часы Вольга запомніла брата, абкладзенага падручнікамі. Ён увесь час нешта вучыў, кажа яна.

### Эмігрыраваў у Амерыку ў няпоўныя 20 гадоў са 100 доларамі ў кішэні

Вучыўся Аляксандр у гімназіі, якую відаць з вокнаў ягонага пакоя. Паводле слоў Вольгі, брат быў захоплены англійскай мовай і пасля гімназіі выбраў каледж, у якім яна паглыблена вывучалася. Потым паступіў на гістарычны факультэт Магілёўскага ўніверсітэта імя Куляшова, але скончыў толькі два курсы.



Вольга кажа, што ў Амерыку Аляксандр паехаў, калі яму не было 20 гадоў, са 100 доларамі ў кішэні. Першыя гады яму было дужа цяжка. Працаваў на мэблевай фабрыцы. Пазней Аляксандр скончыў каледж і атрымаў ступень бакалаўра.

"Гэта ўсё гаворыць пра мэтанакіраванасць ды розум брата. Нягледзячы на дасягненні, ён не стаў эгаістычным. Заставаўся чалавекам добразычлівым, з гумарам. Водгукі пра яго самыя станоўчыя. Цяпер ягоная старонка ў "Фэйсбуку" поўная спачуванняў ад сяброў", – кажа Вольга.

### Не раз прыязджаў на радзіму

Паводле слоў Вольгі, Аляксандр неаднойчы прыязджаў на радзіму. Расказваў пра свой амерыканскі побыт. Адзначаў узровень жыцця ды адносіны між людзьмі. Параўноўваў іх з беларускімі.

"Амерыканскі лад жыцця яму дужа падабаўся, – кажа сястра. – Яму была даспадобы свабода ў перасоўванні і вандраванні. Ён быў задаволены сваім жыццёвым раскладам: раніцай устаў, схадзіў на працу, потым трэнажорная зала, затым пляжны баскетбол. Ён жыў, а не выжываў".

Вольга кажа, што ў Амерыцы брат рабіў паспяховую кар'еру. Стаў менеджарам муніцыпалітэта. Прасоўваўся па службе. У яго былі падначаленыя.

"Зведаўшы напачатку цяжкасці, ён навучыўся браць ад жыцця ўсё, што яно магло яму прапанаваць. Усё, што ён меў, было ягоным", – кажа Вольга і дадае: – Калі Аляксандр стаў на ногі, то ў Амерыку забраў брата з сям'ёй і маці. У яго былі планы на жыццё. Ён сустрэў дзяўчыну. Прапанаваў ёй выйсці за яго. Толькі выйшаў з адпачынку. І тут такая трагедыя!.."

### Аляксандра пахаваюць у Амерыцы

Маці, брат Аляксей і ягоная сям'я цяпер у шоку, працягвае Вольга. Расказвае: 1 чэрвеня быў дзень памяці брата. Ягоны дом быў поўны сяброў і калег. "Маці ні на секунду не пакідаюць адну. Шмат хто прапануе дапамогу".

Вольга сама два дні не можа суняць слёзы. Гаворачы пра брата, стрымліваецца, каб не расплакацца. Кажа, што не можа паверыць і змірыцца з тым, што Аляксандра ўжо няма.

"Мы не настолькі былі блізкія з ім як брат і сястра, але дзяцінства праводзілі разам на лецішчы ў бабулі. Можна сказаць, раслі адзін у аднаго на вачах", – кажа напрыканцы гутаркі Вольга.

Паводле яе слоў, пахаваюць Аляксандра ў Амерыцы. Вольга мяркуе, што маці Аляксандра і ягоны брат Аляксей наўрад ці ўжо вернуцца ў Беларусь.

### Што вядома пра трагедыю і нападніка

12 чалавек загінулі пасля таго, як муніцыпальны служачы ўвайшоў у памяшканне адміністрацыі горада Вірджынія-Біч і распачаў там страляніну. Чатыры чалавекі былі дастаўлены ў лякарню з раненнямі.

Амерыканскія СМІ паведамляюць, што нападнік быў забіты ў перастрэлцы з супрацоўнікамі паліцыі. У злачынстве падазраецца 40-гадовы Дэўін Крэдак, які быў узброены пісталетам і паўаўтаматычнай стрэльбай.

Падчас страляніны ў будынку было каля 400 чалавек. Паводле дадзеных паліцыі, цела аднаго забітага было знойдзена ў аўтамабілі побач з будынкам, астатнія – на трох паверхах муніцыпалітэта.

"Гэта самы жудасны дзень у гісторыі Вірджынія-Біч», – заявіў мэр горадп Бобі Даер.

Паводле папярэдніх дадзеных, зброя, з якой страляў зламыснік, была набыта легальна. У водгуках на масавае забойства палітыкі ад Дэмакратычнай партыі зноў запатрабавалі зрабіць больш жорсткім заканадаўства, спасылаючыся на шматлікія выпадкі стральбы ў публічных месцах.

(Радыё Свабода.)

Народная Воля
http://www.nv-online.info
4 ЧЭРВЕНЯ 2019 г.

ОСОБЫЙ СЛУЧАЙ

# «Боялась, что врачи отругают, когда скажу о второй беременности. А они, наоборот, поддержали!»

*1 апреля 2015 года Марине Ананич впервые в Беларуси врачи пересадили одновременно печень и почку. Менее чем через два года после операции она родила Егора. А 24 января этого года на свет появилась Ксюша!*

### «Решила не зацикливаться на болезни»

Марине Ананич 34 года. Стройная, улыбчивая красавица – мама двоих детей. Она все время в движении: муж Василий – дальнобойщик, часто бывает в длительных командировках, дом, дети, быт – все на ней. Со стороны никогда не скажешь, что Марина живет с чужими почкой и печенью.



У нее редкое генетическое заболевание. *«Как говорится, один случай на миллион*, – вздыхает женщина. – *Очень редко случается такая мутация генов, чтобы детям от здоровых родителей досталась в наследство поликистозная болезнь почек. Со мной произошло именно так. И с моей младшей сестрой. Таня умерла в 17 лет…».*

Проблемы со здоровьем у Марины начались с детства. Постоянный врачебный контроль, плановые госпитализации… Но тогда она до конца не осознавала, насколько серьезный у нее диагноз.

*«В юном возрасте все, наверное, беспечные. Чувствовала-то я себя хорошо, хотя анализы показывали другое и врачи предупреждали, что при этой болезни поражаются не только почки, но и печень, что мое будущее – гемодиализ*, – рассказывает она. – *Но я как-то для себя решила не зацикливаться на болезни».*

После школы девушка поступила в медицинский колледж, по распределению попала работать в Боровляны, в Минскую областную детскую клиническую больницу.

– *Проработала медсестрой 7 лет. А потом как-то сильно простудилась*, – вспоминает Марина. – *Сдала анализы, а они были настолько плохие, что меня сразу же госпитализировали в 1-ю Клиническую больницу Минска в отделение нефрологии. Врачи сказали, что нужен диализ, потому что почки уже не справляются с очистительной функцией, кровь надо чистить принудительно и что теперь это мой образ жизни навсегда. Для меня это было шоком! Я же столько насмотрелась на бабушек, которые ходили с диализными мешками, не верила, что со мной может так быть, а это невозможное очень быстро наступило... Не знала еще, как парню своему рассказать обо всем. Мы уже тогда с Васей встречались четыре года, шесть месяцев жили вместе, он знал, что у меня больные почки, но как сказать, что они полностью отказали и я теперь буду жить на диализе?!*

Вася, услышав от любимой о ее проблемах, заметил только: «Нужно лечиться». А через неделю сделал предложение выйти за него замуж…

Марине оформили 1-ю группу инвалидности и назначили перитонеальный диализ, его можно проводить в домашних условиях. Но это только кажется, что выполнять процедуру дома удобнее, чем быть привязанным к клинике.

– *Неудобство в том, что никуда не можешь сходить*, – говорит Марина. – *Процедура как проходит: в живот вставляется трубка-катетер, через него в организм попадает специальный раствор, который удаляет вредные вещества из крови. Жидкость в животе надо менять каждые 3–4 часа… Все эти заливания-выливания меня подкосили морально. Если бы Вася не поддерживал, не знаю, как справилась бы…*

Врачи тоже Марину успокаивали, говорили, что сегодня в Беларуси успешно выполняют пересадку почки и люди с пересаженным органом живут потом полноценной жизнью, работают, занимаются спортом и даже рожают детей. Она же считала, что ее, молодую 28-летнюю женщину, просто утешают. На тот момент у нее еще начались серьезные проблемы с печенью, и Марину поставили в лист ожидания на пересадку и почки, и печени.

### Подарок к юбилею

*«Я стала интересоваться пересадкой, читать*, – говорит Марина. – *Морально готовилась. Но не думала, что все случится так быстро. Буквально через год после того, как я встала на очередь, позвонили из Центра трансплантологии и сказали срочно, в течение часа, приехать в больницу, есть донор. Причем мне дозвониться не смогли, разыскали маму. Я была в ступоре. В квартире – одна, родители далеко, в 150 километрах от Минска, жених на работе. Мама по телефону сказала: ехать немедленно! Это было вечером 30 марта. А 1 апреля 2015 года мне пересадили почку и печень… Никогда не спрашивала, кто стал донором, кому я обязана жизнью… Мама узнавала: это была молодая женщина, в 31 год у нее случился инсульт…*

Операция началась в 6 утра, длилась 8 часов. Ее выполняли лучшие хирурги-трансплантологи страны. Печень пересаживал будущий лауреат госпремии Беларуси, заведующий отделом трансплантологии РНПЦ трансплантации органов и тканей Алексей Щерба, почку – хирург отделения Леонид Ткачев, *выполнявший пересадку почки еще в конце 1990-х*. Все прошло удачно, но на третий день случилось серьезное осложнение, Марину снова прооперировали.

*«Две операции за трое суток*, – вспоминает она. – *Поначалу тяжело было восстанавливаться, а потом потихонечку все наладилось, анализы были хорошие, ходила только, крючком согнувшись. Мне казалось, что после пересадки люди месяцами лежат в больнице. А нет. Меня выписали через 24 дня. А 11 мая я уже отмечала свое 30-летие. Такой вот получился подарок к юбилею».*

В сентябре 2015 года Марина с Василием расписались. *«Свадьба была, как у всех, с белым платьем и гостями»*, – улыбается Марина.

Когда они с мужем стали задумываться о детях? Говорит, что они всегда хотели ребенка, но всё случилось неожиданно. В буклете, который Марине дали при выписке из больницы, она прочла, что забеременеть можно через 2 года после операции по пересадке почки при условии, что функция почки не нарушена и анализы в норме. *«А у меня два чужих органа, значит, через три года, решила я*, – улыбается Марина. – *А забеременела через полгода после свадьбы, то есть после операции и года не прошло».*

### «Жизнь наполнена смыслом»

**– И что сказали врачи, узнав о вашей беременности? Ведь вы теперь постоянно, на протяжении всей жизни должны пить иммуносупрессоры – препараты, которые не дают пересаженным органам отторгаться.**

– Меня направили в РНПЦ «Мать и дитя». Там наблюдаются такие же, как я, беременные женщины с пересаженными органами. Не поверите, но нас немало. Когда лежала на сохранении, со мной в палате были еще три молодые женщины с пересаженными почками. Все благополучно родили, мы и теперь перезваниваемся…

Если честно, я сама не ожидала, что так легко будет протекать беременность. Четыре раза ложилась исключительно на плановые обследования. В 38 недель, 16 ноября 2016 года, мне сделали кесарево. Родился абсолютно здоровенький Егор.

**– Поэтому решились и на вторые роды**?

– Наверное. Я сразу решила: если бог дал второе дитя, надо его сохранять. Но боялась сказать об этом врачам, думала, отругают, а они, наоборот, сразу поддержали. Я даже не ожидала такой реакции! Рождению своих малышей я обязана прекрасным специалистам РНПЦ трансплантации органов и тканей и «Мать и дитя». Отдельно хочу поблагодарить врачей-гинекологов Ольгу Владимировну Ткаченко и Ольгу Альфредовну Панкратову.

**– А как справляетесь с детками? Егор, видно, мальчик очень энергичный…**

– Нормально справляюсь, как все молодые мамы. Если честно, думала, что будет сложнее. Но все получается, Ксюшка очень спокойная…

Чувствую я себя, тьфу-тьфу, хорошо. Это даже и сравнивать нельзя, как было до операции и как есть сейчас. У меня же на диализе кожа уже была серо-зеленая, слабость постоянная, носовые кровотечения. А сейчас обычная жизнь. Много гуляем с детьми на улице. Свекровь приезжает помочь, когда у нее получается, – она еще работает. Мои родители приезжают. Сейчас вот на все лето к ним собираемся. Они живут на Нарочи в деревне, там большой дом, огород, свежий воздух…

**– Как свекровь отнеслась к выбору сына?**

– Сказала: для нее главное, чтобы сыну было хорошо...

А я благодарна судьбе, что она мне послала Васю. Он очень надежный, обязательный. Сказал, что будет нас обеспечивать, и слово держит. Работал раньше в троллейбусном парке, уволился, ушел в дальнобойщики. Нам же квартиру надо строить. Это жилье съемное, уже третья квартира по счету... Стоим на льготной очереди в исполкоме. В этом году переоформили очередь на меня, и мы уже 26-е.

…После трансплантации можно и нужно заводить семью, рожать и делать сотню дел, которые были недоступны на диализе. Конечно, я задумываюсь о том, что вдруг что-то пойдет не так. Но эти страхи уходят. Во-первых, я знаю, что можно пересадить другую почку. У меня их сейчас три – донорская и две свои, потому что при трансплантации свои, если они не несут никаких угроз организму, не удаляют, донорскую подсаживают в паховую область. А во-вторых, я в компании надежных специалистов! Езжу на обследования в Центр трансплантологии, у меня есть свой лечащий врач – Мария Александровна Фролова.

…Иногда задумаюсь, что бы я делала, если бы у меня не было детей. Побоялась бы рожать – и что?! А так жизнь наполнена смыслом, и некогда задумываться о том, что я живу с донорскими органами.

**– А чувствуете их?**

– Абсолютно ничего не чувствую. Иногда, когда дети пораньше уснут и мне нечем заняться, вдруг вспоминаю, что у меня не свои органы, и как-то немножко не по себе становится. А потом забываю – и все: живу дальше!

**Мария ЭЙСМОНТ.**

КОМПЕТЕНТНО

## Алексей ЩЕРБА,

заместитель директора по хирургии Минского научно-практического центра хирургии, трансплантологии и гематологии, руководитель программы трансплантации печени, доктор медицинских наук:

sb.by

– Мы настолько привыкли к сложным задачам в нашей профессии, что даже не задумываемся о том, насколько некоторые ситуации могут быть редкими. Случай нашей пациентки Марины Ананич действительно уникальный. В регистрах беременности после трансплантации органов в США и Великобритании вообще нет раздела «Беременность после трансплантации печени-почки».

Вообще, первая беременность и роды после пересадки печени зарегистрированы в 1979 году. Сейчас оценивается, что женщина с трансплантатом печени – это каждая 30.000-я роженица. А с точки зрения иммунологии и физиологии комбинация обоих трансплантатов даже лучше защищает во время беременности (чем отдельно печень или почка), и поэтому нет физиологических преград для вынашивания плода. Все органы и системы работают нормально.

Что касается самой операции, то помимо того, что необходимость трансплантации печени для Марины стала неожиданностью, для нас еще более неожиданным стало то, что у нее имелась анатомическая особенность кровоснабжения печени, а именно тромбоз воротной вены. До сих пор это являлось формальным противопоказанием к операции из-за чрезвычайной технической и методической сложности планирования и выполнения операции трансплантации печени. Такие вмешательства выполняют несколько топовых трансплантационных центров мира. В Беларуси это была первая такая операция у взрослого. В настоящее время из более чем 630 трансплантаций печени мы выполнили 35 подобных операций у детей и взрослых, причем таких пересадок, как у Марины, до сих пор всего восемь.

АФІЦЫЙНА

Ірына КАСЦЕВІЧ,
міністр працы і сацыяльнай абароны:

### «На дадатковыя даплаты спатрэбілася б амаль 9 млн рублёў, гэта не ўяўляецца магчымым»

Улады Беларусі маюць намер падняць мінімальную зарплату да памеру мінімальнага спажывецкага бюджэту для сям'і з чатырох чалавек, які зараз складае амаль 364 рублі. Урад плануе павялічыць гэтыя выплаты ў бліжэйшыя паўтара года:

– *Пры разліку памеру мінімальнай зарплаты максімальна выкарыстоўваліся магчымасці рэспубліканскіх і мясцовых бюджэтаў*, – адзначыла міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч**, выступаючы на нядаўнім пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях. – *У выніку пастановай урада з 1 студзеня 2019 года мінімальная зарплата ўстаноўлена ў памеры 330 рублёў, гэта ўжо 95% ад МСБ. Калі мы распрацоўвалі гэтую пастанову, яе не ўзгадніла Федэрацыя прафсаюзаў* (прафсаюзы настойвалі на суадносінах у 100%. – **Рэд.**). *Але праблема ў тым, што калі б мы ўсталявалі 100%, на дадатковыя даплаты спатрэбілася б амаль 9 млн рублёў, гэта не ўяўляецца магчымым. Але на 2020 год пастаўлена задача выйсці на 100%.*

ПАРАЎНАЕМ

### Якія «мінімалкі» ў іх?

364 рублі – гэта менш за 160 еўра. І гэта па цяперашнім афіцыйным курсе валют, а які ён будзе ў 2020 годзе – не вядома.

У той жа час у нашых суседзяў – членаў ЕС мінімальныя зарплаты ўжо даўно вышэйшыя за беларускія паказчыкі, больш за тое, у Літве і Эстоніі «мінімалкі» перавышаюць сярэднюю зарплату беларусаў.

Так, на 1 студзеня 2019 года памер мінімальнай зарплаты складаў:

**Літва** – 555 еўра,
**Эстонія** – 540,
**Латвія** – 430 еўра.

У **Польшчы** «мінімалка» складае 523 еўра, у **Чэхіі** – 518, у **Венгрыі –** 464 еўра, а ў краінах Старой Еўропы яна вышэй нават гэтых паказчыкаў у тры разы:

**Вялікабрытанія** – 1453 еўра,
**Германія** – 1557,
**Францыя** – 1521 еўра.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЛІЧБЫ

### У лідарах…

*Беларусь заняла чацвёртае месца сярод сырных экспарцёраў свету, апярэдзіўшы нават Аўстралію і Швейцарыю.*

Беларускія вытворцы, па дадзеных Белстата, за студзень–сакавік прадалі за мяжу амаль 57,8 тысячы тон сыроў і тварагу. Для параўнанняЖ за аналагічны перыяд мінулага года краіна экспартавала 46,6 тысячы тон. У першым квартале сукупны экспарт сыроў і тварагу склаў 225,7 мільёна долараў.

Асноўным рынкам беларускіх сыроў і тварагу застаецца Расія. На яе прыходзіцца 94,2% экспарту, што прыносіць амаль 212 мільёнаў долараў.

ИНИЦИАТИВА

## «Робім Разам»

*Для жителей – зона отдыха, для застройщиков – лакомый кусок земли*

У минчанина Валерия Кавецкого – небольшой собственный бизнес по курьерской доставке документов и мелких грузов. Он постоянно и много ездит по городу. Как-то ясным апрельским днем выдалась свободная минута, и Валерий зашел отдохнуть в Севастопольский парк, мимо которого проезжал.

«Как же здесь здорово! Всего пара десятков метров от шумного Логойского тракта – и можно наслаждаться зеленью, тишиной. Отдохнуть от суеты под березками. Посмотреть, как прыгают озорные белки. Эх, повезло же местным жителям!» – подумал тогда Валерий.

А еще у Валерия есть хороший приятель – сторонник «Говори правду» и член Белорусской партии левых «Справедливый мир» Юрий Суарес. Тот и поведал, что если для местных жителей Севастопольский парк – это зона отдыха и «зеленые легкие» района, то застройщики смотрят на него как на лакомый кусок земли.

– Здесь уже и кольцевую дорогу построить хотели, и жилые дома, и химический завод. А в прошлом году появился план по строительству в южной части парка, рядом с улицей Кутузова, старообрядческой церкви. Как всегда, мнения местных жителей никто не спрашивает. А ведь даже по закону строить здесь запрещено – рекреационная зона как-никак. Поэтому мы еще тогда собрали почти 700 подписей против строительства церкви – в бумажном и электронном виде. Администрация Первомайского района Минска пообещала провести общественные слушания. Но они не состоялись, и не известно, состоятся ли вообще, – рассказывает Юрий.

Поэтому весной этого года активисты решили повторно собрать подписи против строительства старообрядческой церкви. Так и начался проект «Робім разам» за сохранение Севастопольского парка.

В один из вечеров Юрий и Валерий отправились собирать подписи жителей домов микрорайона «Восток-2». Люди активно поддержали инициативу. Против строительства церкви подписывались семьи, чьи дети любят играть в парке. Подписывались и старики, которые любят прогулки по тенистым аллеям. Подписывались и те, кто ясными летними деньками собираются в парке на пикники. Менее чем за час было собрано более 20 подписей.

Всего же против строительства церкви подписались более 200 местных жителей. Ответ из администрации Первомайского района не заставил себя ждать.



– «Вопрос размещения данного объекта будет рассмотрен по результатам общественного обсуждения», – говорится в ответе. Но ни дата, ни время не называются. Нам известны случаи, когда общественные обсуждения проводились формально, «задним числом», – рассказывает Юрий Суарес.

В ближайшее время команда «Робім разам» планирует провести собрание местных жителей. Они хотят добиться, чтобы общественное обсуждение проекта старообрядческой церкви было реальным, а не формальным.

– Если не удастся остановить строительство, то будем добиваться посадки новых деревьев вместо срубленных. Для нас главное – чтобы зеленая зона почти в центре двухмиллионного города сохранялась, а сам город оставался пригодным для жизни, – подытоживает Юрий Суарес.

**Андрей ИГНАТОВИЧ.**

**Более подробно о национальной кампании «Робім разам» вы можете узнать на сайте www.zapraudu.info.**

АРТ-ЖИЗНЬ

## Что сказал директор Большого театра, когда пришел к артисткам за кулисы

Говорят, что уровень задала Анна Нетребко – раньше так богато на сцену для выступления классические певицы не одевались. Но оперная дива номер один не скупится на шикарные наряды, и публика, ею быстро воспитанная, уже вошла во вкус: нам теперь хочется получать усладу не только для ушей, но и для глаз. Да и то сказать, человека красит одежда. Как почти не шутил Марк Твен: «Голые люди имеют крайне малое влияние в обществе, а то и совсем никакого».

Сольный концерт двух прекрасных белорусских певиц Анастасии Москвиной и Оксаны Волковой прошел в Большом театре с грандиозным успехом. Их вокальное мастерство безупречно. Но ведь, прямо скажем, у женщин и одежды были под стать! Чувствовалось, что этот вопрос они не пустили на самотек, их роскошные платья на сцене сочетались по цвету. Да и музыкальному материалу, который они исполняли, тонко соответствовали. Если Оксана была в кофейно-розовом, то Анастасия рядом – в изумрудном. Если Москвина мерцала в смоляном, то Волкова не терялась рядом с ней, потому что была в алом. Это было пиршество для глаз! А ведь еще какие голоса, какие дуэты…

Концерт собрал полный зал, от криков «Браво!» колыхалась люстра, букеты от публики выпадали из рук певиц – не удержать. Поэтому когда генеральный директор Большого театра Владимир Павлович Гридюшко пришел после концерта к солисткам за кулисы, то от полноты чувств он был лапидарен. «Мировой уровень! Поздравляю!» – только и смог вымолвить грозный руководитель.

Певицы не остались в долгу: «А вам, Владимир Павлович, спасибо за платья!» Оказывается, театр взял на себя издержки по изготовлению нарядов для выдающихся солисток. Это уже по-европейски. Что ж, театр – Большой, и расходы у него немалые. Кстати, слышала, что театральный директорский корпус Минска завидует способностям топ-менеджера Гридюшко зарабатывать средства для своего дома искусства. Весь сезон в белорусский Большой едут гастролеры. Ну, тайны здесь нет. Просто кто на что учился.

**Виктория ДРОЗД.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## «Некаторыя курсанты больш капрызныя, чым дзеці…»

*Інструктар адной са сталічных аўташкол шчыра расказала «Народнай Волі» пра спецыфіку сваёй працы.*

**Наталля УКОЛАВА** вучыць людзей тэорыі і практыцы кіравання машынай ужо шмат гадоў, апошнім часам працуе ў мінскай аўташколе «Зебра». Пра тое, наколькі гэта складаная і цікавая праца, – у нашай размове.

– Адкрыць аўташколу няпроста, – пачынае Наталля. – Патрэбна сабраць вялікі пакет дакументаў, прайсці шмат інстанцый і праверак. Мяркую, на старце як мінімум неабходна каля 20–30 тысяч долараў. Арэнда памяшкання, абсталяванне залы для навучання... Камерцыйную навучальную ўстанову правяраюць ад «а» да «я». Адну санстанцыю прайсці чаго каштуе! У нас нават анучкі лічылі ў прыбіральні, якія трэба мець і для мыцця падлогі, і для парт.

Затым школа праходзіць, як я кажу, тэхагляд. Правяраюць стан машын, у нас строгая справаздачнасць. Вельмі вялікі аб'ём дакументацыі трэба весці падчас навучання курсантаў, і гэта таксама правяраецца.

Але самае галоўнае ў школе – сабраць добры калектыў. Бо паперы – гэта паперы, а людзі – гэта людзі. Сёння мы падлічылі, што з першай групы толькі адзін чалавек застаўся без вадзіцельскага пасведчання. Дзяўчына проста не захацела ісці здаваць экзамен у ДАІ.

**– Інструктар, напэўна, павінен быць і добрым псіхолагам?**

– Так, бо публіка ў нас навучаецца featuring рознага ўзросту, з рознымі характарамі. Да кожнага патрэбны свой падыход. Натуральна, ва ўсіх розныя здольнасці да таго, каб авалодаць тэхнікай. І я звычайна пачынаю з пытання да курсантаў (асабліва да прадстаўніц жаночага полу), ці ведаюць яны, дзе левы бок, а дзе правы.

**– Вы сур'ёзна?!**

– Абсалютна! Калі нехта з гэтага пасмяецца, то скажу: сітуацыя зусім не смешная. Са свайго досведу магу сказаць, што большасць жанчын блытаюць правы і левы бок. Кажаш чалавеку «налева», а ён паварочвае направа.

Я вырашыла гэтую праблему досыць проста: перад выездам у горад жанчынам, якія блытаюцца, на левай руцэ пішу «левая», а на правай – «правая». Рукі пастаянна на рулі, надпісы – перад вачыма. А затым прызвычайваюцца.

**– Ці скардзяцца на вас курсанты, калі нешта ў іх не атрымліваецца? Заўсёды ж працай інструктара вінаватым зрабіць…**

– Мы ўсё ж такі стараемся знаходзіць з нашымі навучэнцамі агульную мову. Але часам даходзіць да смешнага. У нашым аўтапарку ёсць адна самая дарагая машына – «Шкода-Актавія» амаль за 20 тысяч долараў. Псасадзілі дзяўчынку вучыцца на гэта аўто, а мама тэлефануе і скардзіцца: «Навошта вы пасадзілі маю дачку на гэтую вялізную «калымагу»?! Дайце ёй больш кампактнае аўто». Другое дык другое! Пасмяяліся…

**– З курсантамі якога ўзросту лягчэй за ўсё працаваць?**

– З дзяўчатамі і хлопцамі да 25 гадоў. Чаму так? Яны лепш успрымаюць інфармацыю, якую ім даеш. У моладзі лепшая каардынацыя, яны аптымістычна глядзяць на працэс навучання, нават калі нешта не атрымліваецца. А ў сталых людзей больш страхаў і амбіцый. І практычна ў кожнай групе заўсёды знойдзецца адзін такі чалавек.

Апошні выпадак: запісалася 62-гадовая жанчына, такая ўжо капрызная, горш за дзіця. Кажу ёй: «Выконваем практыкаванне «заезд у гараж». – «Не хачу». – «Чаму?» – «Не хачу – і ўсё». – «Вы ж прыйшлі вучыцца, дык вучыцеся…»

Закончылася тым, што яна напісала на мяне скаргу, што я – дрэнны педагог. Жанчына сказала так: «Я ў аўташколе хачу ездзіць толькі па коле, а ў горад наогул не хачу выязджаць». Таму, як бачым, розныя кадры сустракаюцца. Пенсіянерка, відаць, прыйшла ў аўташколу, як у парк Чалюскінцаў з унукамі, дзе можна заплаціць грошы і пакатацца на машынках.

**– Нешта змяняецца ў працы аўташкол апошнім часам?**

– Апошнім часам стала больш парадку. Калі твой навучэнец на самай справе падрыхтаваны, то вельмі вялікая верагоднасць, што ён здасць экзамен з першага разу. Нам жа таксама не хочацца псаваць свой імідж, таму робім усё, каб не проста ўзяць грошы і фармальна даць матэрыял, а насамрэч зрабіць так, каб чалавек навучыўся. І кожны інструктар даражыць сваім іміджам, бо ў нашым сталічным асяродку ўсе адзін аднаго ведаюць.

А вось падрыхтоўка да здачы тэарэтычнага экзамена ў ДАІ для навучэнцаў ускладнілася. Калі дзесяць гадоў таму ў білетах было прыкладна 1500 пытанняў, то зараз 6100! І гэта ўсё патрэбна асвоіць за тры з паловай месяцы навучання, што вельмі складана.

**– А навошта ўсё так ускладнілі?**

– У нас ёсць дзве кампаніі, якія займаюцца складаннем пытанняў, выпускам дыскаў для курсантаў, дык вось яны паміж сабой і вядуць канкурэнцыю на прадмет таго, хто больш напрыдумляе. Для іх гэта, відаць, бізнес, трэба ж, каб дыскі кожны год куплялі новыя. А навучэнцам і нам – дадатковы галаўны боль.

Не думаю, што ў такім выпадку колькасць пераходзіць у якасць. Тым больш што ў ДАІ курсантам падчас экзамена даводзіцца адказваць не толькі на пытанні, якія ім прапаноўвалі вышэйзгаданыя кампаніі, але ў даішнікаў ёсць і свае пытанні. І там фармулёўкі больш простыя і лагічныя.

**– Ці падаражэла зараз навучанне?**

– У доларавым эквіваленце кошт застаецца нязменным. У нацыянальнай валюце – каля 600 рублёў плюс аплата паліва. Але ў нас шмат акцый, таму можна знайсці і больш танныя прапановы.

На самай справе цэны ніхто падняць не можа, бо сярод аўташкол вялікая канкурэнцыя, і калі ў некага падаражэюць паслугі, то да яго ніхто не прыйдзе. Выбар жа ёсць. У Мінску працуе каля 100 аўташкол. Але і навучэнцаў хапае, бо сёння машына – гэта ўжо не раскоша, ездзяць і бацькі, і дзеці.

Але калі падлічыць усе выдаткі аўташкол, то шчыра вам скажу: плата за навучанне насамрэч заніжана. Абслугоўванне аўтамабіляў даражэе, запчасткі таксама, а цана застаецца на ранейшым узроўні. Гэта ж не прафесіяналы за руль вашай машыны садзяцца, а людзі, якія толькі знаёмяцца з тэхнікай. У мяне адзін курсант рычаг пераключэння передач зламаў, уяўляеце?! Дзяўчаты ад страху могуць і ручны тормаз адламаць, і счапленне спаліць. І ніхто ж не застрахаваны ад ДТЗ, бо нярэдка навучэнец вельмі рэзка тармозіць (ізноў-такі ад страху), а машына, якая едзе за ёй, «цалуе» тваё аўто ў бампер.

Дарэчы, не разумею, чаму многія вадзіцелі так грэбліва ставяцца да вучэбных машын, за рулём якіх курсанты. Сігналяць, паказваюць: маўляў, марудна едзеш. І паступаюць так у асноўным жанчыны. Што, забыліся ўжо, як самі вучыліся ў аўташколе? Крутымі сталі?

**– Наталля, сярод тых, хто здаваў экзамены, існуе меркаванне: даішнікі часам адмыслова завальваюць навучэнцаў на першым экзамене, каб тыя заплацілі грошы за пераздачу. Маўляў, ёсць план…**

– Часцей за ўсё курсанты самі робяць прыкрыя памылкі, якія прыводзяць да пераздачы. Людзей падводзіць хваляванне. Дарэчы, у многіх краінах, каб атрымаць медыцынскую даведку на права кіравання машынай, трэба прайсці псіхолага. У нас такога няма, хаця я лічу, што дарэмна. Неўраўнаважаны чалавек за рулём – гэта бяда. А ў гэтым годзе і жанчынам на любым тэрміне цяжарнасці дазволілі вучыцца і здаваць экзамены ў аўташколе. Лічу гэта таксама няправільным крокам, бо навошта жанчыне ў такой сітуацыі дадатковыя стрэсы?

Што тычыцца даішнікаў, то зараз жа ў кожнай машыне, на якой здаюць экзамен, стаяць відэарэгістратары, а таму любы нязгодны можа абскардзіць несправядлівую ацэнку, калі лічыць яе такой. Пройдзе разбіральніцтва, прагледзяць відэазапіс…

**– Ведаю, што некаторыя аўташколы закрыліся. Не вытрымалі канкурэнцыі?**

– Некаторыя, відаць, лічылі, што яны самыя разумныя, а таму выкарыстоўвалі розныя «шэрыя схемы». Былі выпадкі, калі ўсё гэта заканчвалася крымінальнымі справамі і, адпаведна, закрыццём аўташколы.

Але кожнаму сваё. Для нас жа галоўнае – прэстыж школы і добры імідж. І за сваіх вучняў мне не сорамна…

**Алесь СІВЫ.**

ПАМЯЦЬ

## «Ганарыцеся гэтымі беларусамі»

*75 гадоў бітве пад Монтэ-Касіна*

2 чэрвеня 2019 года ў Касцёле Іаана Хрысціцеля ў Камаях адбылося ўрачыстае мерапрыемства, прысвечанае ўдзелу беларусаў у вызваленні Італіі ў складзе Другога польскага корпуса ў маі 1944 года.

Адным з арганізатараў гэтай імпрэзы быў беларускі мастак **Алесь Цыркуноў**, які падрыхтаваў выставу сваіх карцін, прысвечаных бітве пад Монтэ-Касіна.

Ва ўрачыстым мерапрыемстве бралі ўдзел члены групы ваенна-гістарычнай рэканструкцыі «Беларусы ў Войску Польскім» на чале з кандыдатам гістарычных навук **Ігарам Мельнікавым**. Даследчык падрыхтаваў і прадставіў гасцям сустрэчы выставу «Беларусы ў Другім польскім корпусе», а таксама распавёў пра гісторыю ўдзелу нашых суайчыннікаў у барацьбе супраць нацызму ў складзе Другога польскага корпуса.

Варта адзначыць, што на момант пачатку Другой сусветнай вайны ў складзе польскага войска знаходзілася каля 70 тысяч беларусаў. У выніку стварэння Войска Польскага ў СССР у 1941 годзе яго шыхты таксама папоўнілі тысячы нашых суайчыннікаў. Даследчык распавёў прысутным пра трагедыю гэтых людзей (знаходжанне ў ГУЛАГу і савецкіх турмах, дэпартацыі), мужнасць і гераізм.

Спецыяльным госцем мерапрыемства стаў грамадзянін Вялікабрытаніі, шатландзец **Эндзі Здан-Міхайловіч** *(на фота)*, які наведаў касцёл у Камаях у нацыянальным шатландскім строі і з партрэтам свайго бацькі – ураджэнца Слонімшчыны, удзельніка бітвы пад Монтэ-Касіна.

*«Ведаеце, гэтае ўзвышша штурмавалі шматлікія вайсковыя падраздзяленні. Брытанцы, індусы, новазеландцы… Ніхто не мог узяць манастыр Монтэ-Касіна. Ля падножжа гэтай гары ляжалі тысячы трупаў жаўнераў войскаў саюзнікаў. І вось генерал Андэрс сказаў: «Мы возьмем Монтэ-Касіна». Яны пайшлі ў атаку і перамаглі. Перамаглі вашы суайчыннікі. Там былі палякі, украінцы, але там было і шмат беларусаў. Вялікая колькасць іх назаўсёды засталася на ваенных могілках у Італіі. Імі па сёння ганарацца еўрапейцы. Ганарыцеся гэтымі беларусамі! Яны заслужылі, каб вы памяталі пра іх»*, – сказаў спадар Здан-Міхайловіч.

Нагадаем, што зараз у Беларусі адбываецца акцыя «Беларусь памятае». Мерапрыемства ў Камаях накіравана на тое, каб беларускае грамадства ўзгадвала ўсіх жаўнераў-беларусаў, якія змагаліся супраць нацызму падчас Другой сусветнай вайны.

Савецкія ўлады не прызнавалі за беларускімі андэрсаўцамі права на званне ветэранаў. Шматлікія беларускія героі бітвы пад Монтэ-Касіна памерлі, так і не атрымаўшы прызнання на Радзіме. Таму вельмі важна, каб сучаснае беларускае грамадства аддало даніну павагі беларускім жаўнерам верасня 1939 года і Войска Польскага на Захадзе. Трэба памятаць тых, хто з самага першага дня Другой сусветнай вайны змагаўся супраць нацызму.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ТРАГЕДИЯ

## Говорят, они были женихом и невестой…

Субботняя сводка ГАИ была скупа: 1 июня около двух часов 31-летняя женщина и ее 35-летний спутник ехали вдвоем на авто «Лексус» по улице Колхозной деревни Михейки Слуцкого района. За рулем был мужчина. Он в какой-то момент не справился с управлением, и машина съехала в кювет, а потом ударилась о придорожное дерево. Удар пришелся как раз с той стороны, где сидела пассажирка. Она серьезно пострадала.

Позже выяснилось, что водитель сначала сам пытался оказать женщине помощь, затем, когда появилась «скорая», помогал медикам перенести в нее пострадавшую. Но сотрудников ГАИ мужчина не стал дожидаться – ушел. Впрочем, через час его нашли.

Установлено, что пара приехала на Случчину из Ошмянского района Гродненской области погостить к родственникам. Говорят, они были женихом и невестой.

Поездка, сулившая приятные впечатления, обернулась трагедией. Молодая женщина от полученных травм скончалась в больнице 2 июня.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ЖАХ!

## У войсках – суіцыд за суіцыдам

Не мінула і трох тыдняў, як у Пагранічных войсках здарыўся яшчэ адзін суіцыд: на гэты раз у Полацкім атрадзе. Раней па ўласным жаданні развітаўся з жыццём 34-гадовы вайсковец-кантрактнік аднаго з падраздзяленняў упраўлення Смаргонскай памежнай групы.

1 чэрвеня адбылося самазабойства ваеннаслужачага слонімскай 11-й механізаванай брыгады Міністэрства абароны.

Што штурхае маладых людзей з пагонамі на плячах да сыходу на той свет? Вось пытанне, якое хвалюе не толькі высокае начальства Міністэрства абароны, але і шырокую грамадскасць.

**Кацярына ПУЗЫНКОВА.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Как улучшить кровообращение в ногах

*От качества кровообращения в ногах напрямую зависят их здоровье и красота, ведь кровь несет к тканям питательные вещества. Их недостаточное поступление приводит к возникновению болезней и увяданию кожи. Предотвратить подобное может каждый, следуя простым советам.*

### Следите за собой

То, как вы сидите, стоите, какую обувь или одежду носите, сильно влияет на циркуляцию крови в ногах. Предотвратить нарушения нетрудно, главное – обнаружить свои вредные привычки и планомерно от них избавляться.

**Нет долгому и неподвижному сидению или стоянию.** Каждый час нужно хотя бы на несколько минут отвлекаться от рабочих дел и двигаться. Сходите выпить стакан воды, подойдите к окну, спуститесь на пару этажей вниз и снова поднимитесь – все что угодно, только двигайтесь.

**Скрещенные ноги – это красиво, но препятствует свободному кровообращению.** Лучше всего сидеть со слегка расставленными ногами так, чтобы ступни полностью касались пола. В идеальном варианте стоит ставить их на подставку высотой 15–30 сантиметров.

**Физкультуре – да!** Даже 5 минут в день, уделенные упражнениям на мышцы нижних конечностей, станут прекрасной профилактикой возникновения нарушений кровообращения. А получасовая пешая прогулка в умеренном темпе надолго сохранит здоровье ног.

**Красивая, но неудобная обувь – только для особых случаев.** На каждый день лучше выбирать туфли на низком каблуке с хорошей амортизацией, кроссовки, мокасины и т.д. Если же это кажется вам невозможным, наденьте обувь на танкетке.

**Компрессионное белье – мощная профилактика нарушений кровообращения.** Специальные колготки и чулки продаются в аптеках и внешне похожи на обычные, но они обеспечивают максимально эффективное питание тканей и перераспределяют нагрузку кровеносного потока, защищая расширенные вены от еще большего повреждения.

Но выбор размера такого белья стоит доверить профессионалу – врачу-флебологу.

**Курить действительно вредно.** Регулярное поступление никотина приводит к развитию заболеваний периферических сосудов и снижению их эластичности, в результате интенсивность кровообращения сильно снижается.



### Разнообразьте питание правильно

Ежедневное употребление определенных продуктов и биологических добавок на их основе способно положительно влиять на циркуляцию крови в ногах. Это:

- чай из березовой коры, можно с добавлением имбиря;
- кайенский перец, можно добавлять в пищу или чай;
- омега-3 жирные кислоты в виде натуральных продуктов.

Потребление соли, напротив, стоит снизить. Натрия хлорид в больших количествах провоцирует задерживание в организме жидкости, что отрицательно сказывается на венозном давлении. Стоит отказаться от снеков, полуфабрикатов, еды на вынос и отдать предпочтение домашней кухне.

### Не игнорируйте симптомы проблем, обращайтесь к врачам вовремя

Не всегда внесение корректив в привычный образ жизни способствует налаживанию кровообращения. Несмотря ни на что, могут сохраняться:

- чувство покалывания, пульсации или жжения в ногах;
- онемение;
- спазмы мышц;
- боль разной степени интенсивности.

В таких ситуациях требуется помощь специалиста. Лишний вес – также проблема, негативно влияющая на кровообращение. Если с ней не получается справиться самостоятельно, не стесняйтесь получить консультацию диетолога.

ПЕРЕД СОБЫТИЕМ

## Михаил ФИНБЕРГ:
# «Будем любить свою песню и поэзию»

Национальный фестиваль белорусской песни и поэзии «Маладзечна-2019» посвящен в этом году 75-летию освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков, поэтому на торжественном открытии фестиваля прозвучит премьера программы «Песни войны», которую готовит Национальный концертный оркестр под управлением Михаила Финберга. В рамках фестиваля пройдет, как обычно, и конкурс молодых исполнителей эстрадной песни. Вот о нем и хотелось расспросить поподробнее народного артиста Беларуси маэстро Финберга как главного вдохновителя музыкального праздника, который в этом году пройдет в Молодечно в десятый раз.

**– Как вы думаете, маэстро, фестиваль не выдохся за прошедшие десять лет?**

– Мне не хотелось бы так думать. Мне хотелось бы, чтобы он жил как можно дольше, но это зависит не только от меня.

**– А кто еще должен вас поддержать?**

– Вся общественность. Будем любить свою песню и поэзию – будет жить фестиваль в Молодечно.

**– Расскажите, Михаил Яковлевич, как в этом году формировался конкурс молодых исполнителей.**

– Он всегда формируется, с одной стороны, трудно, с другой – вызывает много противоречивых мнений. Конечно, белорусские композиторы ждут приглашения к участию. Но ты же новые песни напиши!

**– То есть, как всегда, трудно с материалом?**

– Очень. Двадцать один человек прошел отборочный тур. А желающих было где-то под сотню со всех областей. Все хотят на сцену к публике и к нашему оркестру. Это ребята, которые недавно окончили музыкальные колледжи и школы – очень разный контингент, некоторые пишут музыку для песен сами, но мы всем сделали хорошие аранжировки. Но поэзия – только классическая. Это главное условие конкурса: чтобы никакой бормотухи не было! Я в этом вопросе учился у Мулявина, который брал для композиций только самые лучшие образцы белорусской поэзии.

**– А конкурсанты, их возможности соответствуют этому высокому уровню, высоким образцам?**

– Недостатков у них пока немало и довольно одинаковых. Главное – им еще надо научиться слушать и слышать белорусское слово. Надо врасти в него и понимать, что исполняешь. Конечно, у нас есть большое пожелание, чтобы победителей конкурса потом чаще показывали по телевизору, больше рассказывали о них, потому что зритель не успевает на певцов наглядеться. Я как дирижер, конечно, все делаю, что касается музыки, но прыгнуть выше себя и открыть им двери на ТВ я не могу.

**– То есть человек победил и… канул в историю.**

– Да, это самый большой недостаток всех белорусских фестивалей, в том числе и



«Славянского базара». Певец получает первое место, и про него тут же забывают. Это отдельный очень серьезный разговор. На Белорусском телевидении есть эстрадные программы, но даже нас туда не приглашают, мы появляемся на экране раз в три года. Хотя мы – Национальный оркестр, это звание нам присвоил лично президент. Я этим горжусь.

**– Какая публика приходит на концерты в Молодечно?**

– Много молодой интеллигенции. И не только в Молодечно. Знаете, я недавно встречался со зрителями в Несвиже. Когда люди стали задавать вопросы, я даже удивился их эрудиции, заинтересованности, и понял, что в Беларуси выросла новая образованная публика. Это уже другие люди, молодая национальная интеллигенция.

**– Вас устраивает площадка в Молодечно? Я имею в виду технические параметры.**

– Достойное сооружение. Главное, что это открытая сцена. А мы привыкли работать при любой погоде.

**– Городские власти Молодечно помогают в организации праздника?**

– Спасибо им, что дают сцену, звук, остальное делаем мы сами. Конечно, нас поддерживает Минкульт, Администрация президента, Совет министров и, не скрою, конечно же, сам президент. Он мне не отказал ни разу ни в одном вопросе, в том числе и в проведении этого фестиваля.

**– А спонсоры помогают?**

– У нас нет спонсоров.

**– Как же! А мозырские нефтяники?**

– Это наши друзья, мы к ним в Мозырь с концертами ездим восемь раз в году. Там к нам приходит рабочий класс, и это, считаю, знак большого уважения к оркестру.

**– Вы будете один стоять у дирижерского пульта в Молодечно или пригласили кого-то еще?**

– Один, я никого не подпускаю дирижировать, это большое искусство. Не все так просто, самое главное – надо уметь помогать исполнителю. Это вам не бумажки зарабатывать.

**– Вы имеете в виду дипломы? Ну, у вас их тоже немало, слава Богу!**

– Я профессор Академии музыки уже много-много лет и каждый год подтверждаю это звание своими работами.

**– У вас большой конкурс на вакантные места в оркестр?**

– Большой: четыре-пять, а то и десять человек на место.

**– Наверное, в коллективе хорошие заработки.**

– Дело не в заработке, неправильно понимаете. У нас престиж, востребованность – вот это молодых прельщает в первую очередь. Мы мало заняты в правительственных мероприятиях (уж не знаю почему), зато ездим по Чернобыльской зоне, не волнуясь ни за какие кюри, да и по всей стране с концертами ездим. И всегда с новыми программами.

**– Как вы считаете, кто из эстрадных певцов сейчас в первой пятерке?**

– Я такого конкурса не проводил, ответить вам не могу. Я уважаю многих, и в первую очередь тех, кто образован, кто учится музыке серьезно.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

Алесь СІВЫ

# Другое прышэсце Вудкрафта?

Хакейнае мінскае «Дынама» па-ранейшаму знаходзіцца ў стадыі нявызначанасці. Няма галоўнага трэнера, няма трэнерскага штаба, не ўкамплектаваны клуб.

Здаецца, павінны былі зрабіць высновы пасля мінулага правальнага сезона, але ў беларускім хакеі разбіраецца так шмат высокіх начальнікаў і ў пагонах, і без, што лёгкіх шляхоў там не шукаюць.

Некалькі дзён таму было паўафіцыйна абвешчана, што галоўным трэнерам «Зуброў» будзе прызначаны Аляксандр Андрыеўскі, які ў свой час ужо працаваў настаўнікам «Дынама». Але затым высветлілася, што кантракт са спецыялістам так і не быў падпісаны. Паводле некаторай інфармацыі, Андрыеўскага проста не задаволіла тое, што ад яго патрабавалі, – вывесці каманду ў плэй-оф пры мінімуме легіянераў. Ды і заробкі ў сталічным клубе, наколькі вядома, апошнім часам зменшыліся.

І вось на гарызонце з'явілася новая кандыдатура – канадзец Крэйг Вудкрафт, які ўзначальваў мінскі клуб у сезоне-2016/17. Трэба адзначыць, што пры ім каманда змагалася ў кожным матчы, было шмат прыгожых валявых перамог, і як вынік «Зубры» патрапілі ў плэй-оф, хаця ў чвэрцьфінале і саступілі яраслаўскаму «Лакаматыву».

А вось развіталіся з канадцам абсалютна непрыгожа. Начальства тады таксама паставіла Вудкрафта перад фактам – у клубе на легіянераў разлічваць не давядзецца. Трэнер пасля гэтага зрабіў развітальны жэст рукой і з'ехаў у Швейцарыю працаваць галоўным трэнерам «Сервета», а беларускія дзеячы ад хакея наўздагон яшчэ і ў спіну канадцу плюнулі.

*«Перад Алімпіядай Крэйг Вудкрафт у чарговы раз заявіў, што звальненне з «Дынама» стала для яго нечаканасцю*, – распавёў pressball.by генеральны дырэктар «Дынама» **Анатоль Курылец**. – *Я – афіцэр* (Курылец – былы намеснік міністра ўнутраных спраў. – **Аўт.**) *і кажу шчыра: Крэйг вёў перамовы са швейцарцамі ўжо са снежня. А мы даведаліся, што ён вядзе двайную гульню, толькі ў маі. Таму давялося працаваць некалькі інакш.*

*Пры гэтым ён выставіў умовы новага кантракта – амаль у два разы больш таго, што было. Далей настойваў на дзевяці легіянерах у складзе. І тое, што ён зараз распавядае, які ён добры, паверце, далёка не так. Яшчэ адзін яркі прыклад: ні трэнер Гордзі Дуаер, ні трэнер Покавіч ніколі не папрасілі б аплаціць куплены за 2 рублі ў трэнерскі пакой падсвечнік. А Вудкрафт з такой просьбай падыходзіў».*

Ад усёй гэтай сітуацыі патыхала вельмі непрыемна, не вытрымаў і канадскі трэнер, які, натуральна, азнаёміўся з крытыкай у свой бок.

*«Словы Курыльца – на 100 працэнтаў хлусня*, – працытавала словы Крэйга Вудкрафта by.tribuna.com. – *Людзі ў Беларусі павінны ведаць пра гэта. Я быў шчаслівы ў Мінску і паважаў кантракт з клубам. Я не вёў перамовы ні з «Серветам», ні з любой іншай камандай падчас Кубка Шпенглера, і я не прасіў павысіць мне заробак і колькасць легіянераў да дзевяці.*

*Разбяруся з гэтай сітуацыяй пасля завяршэння сезона. І, магчыма, звярнуся за юрыдычнай кансультацыяй, паколькі гэтыя заявы закранаюць маю асабістую недатыкальнасць і прафесійную рэпутацыю».*

У суд канадзец на Курыльца не падаваў, а сёння апошняга ўжо і няма на былой пасадзе ў клубе. А вось вяртанне Вудкрафта ў Мінск абсалютна магчыма, тым больш што ён апошнім часам застаўся без працы. Мяркуецца, што ў яго трэнерскі штаб таксама ўвойдуць вядомы беларускі хакеіст Міхаіл Грабоўскі і трэнер Павел Перапіхін, які раней працаваў з юнацкай зборнай.

Неяк Крэйг Вудкрафт сказаў: *«У беларускім хакеі ўсе любяць вінаваціць некага іншага, каб зняць адказнасць з сябе»*. Вось пра гэта канадзец павінен памятаць увесь час. Нават калі падпіша новы кантракт з «Дынама»…

II ЕВРОПЕЙСКИЕ ИГРЫ

## Сколько приедет гостей?

Во II Европейских играх, которые пройдут в Минске с 21 по 30 июня этого года, примут участие более 4000 спортсменов из 50 стран.

Они разыграют 200 комплектов наград в 15 видах спорта (23 дисциплинах), а также лицензии на Олимпиаду-2020 в Токио.

## Выиграл – заработал

Согласно указу президента №201 от 30 мая, Европейские игры сулят победителю стипендию до 11 бюджетов прожиточного минимума (2464 рубля), серебряному призеру – до 9, а бронзовому – до 8.

Золото Европейских игр оценено в 400 базовых величин (10.200 рублей), серебро – в 250 (6375 рублей), а бронза – 160 базовых величин (4080 рублей).

## Кто выступит на открытии Игр?

Организаторы Европейских игр – 2019 в Минске презентовали видеоанонс торжественной церемонии открытия спортивного форума.

Стало известно, что на открытии Игр выступят Димаш Кудайбергенов и Анна Нетребко.

Димаш Кудайбергенов (сценическое имя «Димаш») – казахстанский певец, композитор и мультиинструменталист. Приобрел популярность в Казахстане и в постсоветских странах в 2015 году, став победителем Гран-при Славянского базара в Витебске.

Анна Нетребко – российская и австрийская оперная певица, народная артистка РФ, лауреат Государственной премии РФ (2004).

Певица исполнила гимн Олимпиады в Сочи на церемонии открытия Игр-2014.

## Марихуану на время Игр разрешили. Но не всем

Общественная кампания Legalize Belarus получила ответы на свои обращения по вопросу использования контролируемых веществ иностранными болельщиками во время Европейских игр в Минске.

В своем ответе Государственный пограничный комитет объяснил, что контролируемые вещества, такие, например, как амфетамин и каннабис (марихуана), можно провозить на территорию Беларуси в виде лекарственных средств для личного применения по медицинским показаниям, при наличии подтверждающих документов с указанием названия и количества препарата, сообщает novychas.by.

Перевод документов должен быть нотариально заверен. Такими документами могут являться выписка из медицинской документации пациента или рецептов доктора. Допускается ввоз наркотических средств в количестве, которое не превышает недельную потребность, а психотропных веществ – не более 90 разовых доз. При ввозе таких веществ необходимо будет заполнить пассажирскую таможенную декларацию.




ФУТБОЛ

# Брэсцкае «Дынама» не здае пазіцый

*Прайшлі матчы 10-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*



Вось іх вынікі: «Іслач» (Мінскі раён) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 1:0, «Энергетык-БДУ» (Мінск) – «Гарадзея» – 0:0, «Шахцёр» (Салігорск) – «Дняпро» (Магілёў) – 3:1, «Віцебск» – «Дынама» (Мінск) – 1:3, «Гомель» – БАТЭ (Барысаў) – 0:2, «Тарпеда» (Мінск) – «Мінск» – 0:0, «Слуцк» – «Дынама» (Брэст) – 1:3, «Нёман» (Гродна) – «Славія» (Мазыр) – 0:1.

Фота: dynamo-brest.by.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 10 | 8 | 2 | 0 | 23–6 | 26 |
| БАТЭ | 10 | 8 | 0 | 2 | 16–3 | 24 |
| Шахцёр | 10 | 8 | 0 | 2 | 17–6 | 24 |
| Іслач | 10 | 7 | 0 | 3 | 15–6 | 21 |
| Дынама (Мн) | 10 | 6 | 1 | 3 | 11–8 | 19 |
| Тарпеда-БелАЗ | 10 | 5 | 2 | 3 | 13–8 | 17 |
| Славія | 10 | 5 | 1 | 4 | 13–11 | 16 |
| Нёман | 10 | 4 | 1 | 5 | 9–14 | 13 |
| Віцебск | 10 | 3 | 4 | 3 | 11–12 | 13 |
| Гарадзея | 10 | 3 | 3 | 4 | 6–11 | 12 |
| Гомель | 10 | 2 | 1 | 7 | 17–18 | 7 |
| Дняпро | 10 | 1 | 4 | 5 | 7–16 | 7 |
| Энергетык-БДУ | 10 | 1 | 4 | 5 | 10–21 | 7 |
| Слуцк | 10 | 1 | 3 | 6 | 8–22 | 6 |
| Мінск | 10 | 0 | 6 | 4 | 8–14 | 6 |
| Тарпеда | 10 | 1 | 2 | 7 | 2–10 | 5 |

ШАШКІ

## Лёгкая канструкцыя

Чэмпіён свету ў раздзеле «задачы» **Анатоль Шабалін** прапануе свае новыя задачы на замыканне дамкі. Здзіўляе лёгкасць архітэктурнай канструкцыі на шашачнай дошцы галоўнага архітэктара «Белдзяржпраекта».



№1**Белыя**: шашкі 18, 38, 43, 50, дамкі 1, 5 (6).

**Чорныя**: шашкі 9, 21, 28, 29, 30, 31, 40, дамкі 23, 49 (9).

44(7**А**), 14, 43-39, 23, 45 х. **А**(12), 23, 23-40, 40 х.

№2 **Белыя**: шашкі 11, 18, 21, 31, 32, 33, 42, дамкі 4, 5, 23, 27, 28, 47 (13).

**Чорныя**: шашкі 30, 45, дамкі 36, 50 (4).

28-17(26**А**), 27-22, 34, 44, 31, 17-39, 5-28, 29, 45 х. **А**(48), 24, 32, 37, 31, 6, 17 х.

№3 **Белыя**: шашкі 8, 19, 21, 27, 41, дамкі 5, 29, 30, 32, 34, 38, 40 (12).

**Чорныя**: шашка 45, дамка 50 (2).

22(3**А**), 44, 42, 34-39, 30-39, 23, 45 х. **А**(26), 32-23, 20, 34-29, 41, 37 х.

## Творы замежных аўтараў

Пазнаёмцеся з творамі **Генадзя Андрэева** з Латвіі.

№4 **Белыя**: 19, 27, 28, 31, 32, 35, 37, 44, 45, 46, 48 (11).

**Чорныя**: 8, 10, 14, 16, 17, 18, 20, 23, 25, 26, 29 (11).

21(38**а**), 41, 28(~)30, 43, 3, 5 х. **а**(36), 31, 41, 43, 3, 4...х.

№5 **Белыя**: 20, 27, 28, 31, 32, 37, 42, 46 (8).

**Чорныя**: 8, 16, 17, 18, 19, 23, 26, 29 (8).

21, 14, 3, 15 х.

№6 **Белыя**: 7, 13, 22, 32, 37, 46 (6).

**Чорныя**: 1, 18, 20, 26, 30, 33, 40 (7).

9, 3, 3:17:15(43), 38, 37 х.

Наступныя праблемы прапануе **Валерый Кручкоў** з Украіны.

№7 **Белыя**: 19, 24, 25, 27, 30, 31, 32, 33 (8).

**Чорныя**: 10, 12, 17, 35, 36, 40, 41, 43 (8).

22, 5, 46, 35 х.

№8 **Белыя**: 11, 13, 17, 18, 27, 29, 43, 46, 50 (9).

**Чорныя**: 6, 10, 28, 30, 31, 36, 37, 40, 41 (9).

44, 24, 17-12, 3, 15, 41 х.

№9 **Белыя**: 7, 11, 12, 13, 14, 20, 32, 41 (8).

**Чорныя**: 16, 23, 25, 28, 33, 35, 40, 43 (8).

22, 5, 46, 35 х.

## Рэдкія знаходкі

Рэдкія знаходкі для шашачнай кампазіцыі прапануе магілёўскі майстар **Дзмітрый Камчыцкі**. Бразільска-руская канцоўка:



№10 **Белыя**: b2, b4, c1, f4, g1, h4 (6).

**Чорныя**: a5, d2, d4, e3, f2, f4 (6).

Бразільская развязка – h2(a1), g3(g5), e5(f6), b2(a1), h8 х. Руская развязка – c5(b6), a3, ce3, h8(e3), c3(c5), e1(d4), ab4(c3), b4/a5 х.

Міні-паравёртыш:

№11 **Белыя**: a7, c5, e3, f4, g3 (5).

**Чорныя**: b6, c3, c7, h2 (4).

d4, b8(d4), e5(d6), b8(c5), a7 (b4), e3(c3), c1 х.

Павернем дошку на 180 градусаў – і гульня зусім іншая.

№12 **Белыя**: b6, c5, d6, f4, h2 (5).

**Чорныя**: a7, f2, f6, g3 (4).

e5, g1, f4(d6), e5, f2 х.

Эцюдны паравёртыш:

№13 **Белыя**: шашкі b4, f4, h2, дамка g5 (4).

**Чорныя**: шашкі a3, b2, d2, e7, f6, дамка b8 (6).

h6 (c5**А**), f8, g5, f4, h2 х. **А**(g3), f4, fg5, f8, c5, g1 х.

№14 **Белыя**: шашкі a7, c5,g5, дамка b4 (4).

**Чорныя**:шашкі c3, d2, e7, g7, h6, дамка g1 (6).

a3 (b6**А**), c5, d6, c1 х. **А**(f4), c1, b4, c5, a3 х.

Цікавыя кампазіцыйныя эксперыменты.

## Рашыце самастойна

Знайсці выйгрыш за белых прапануецца ў кампазіцыях вядучага рубрыкі.

№15 **Белыя**: шашкі b2, c1, c3, дамка h6 (4).

**Чорныя**: шашкі a3, c5, d4, e5, g3 (5).

№16 **Белыя**: c7, d6, e7, f6 (4).

**Чорныя**: b2, b4, c5, d8, f4, g5, h4 (7).

№17 **Белыя**: a5, c1, e1, e5, f2, g3 (6).

**Чорныя**: c3, f4, f8, h4 (4).

№18 **Белыя**: b6, c3, c5, d4, d6, e7, g1, g5, h6 (9).

**Чорныя**: b8, d8, e3, f2, f4, f6, f8, g3, g7 (9).

Вынікі бліц-конкурсу «Народнай Волі»(19.03.2019) будуць аб'яўлены ў наступным выпуску.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»*** або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ




Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 04.06.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 005 экз. Заказ № 2003.

9 772071 964000 19043